*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 14 (502) 4 КРАСАВІКА 2001 г.

## Абласныя канферэнцыі ТБМ

1 красавіка 2001 года ў Горадні адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадзенскай абласной арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны.

Былі заслуханы справаздачы старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ і Рэвізійнай камісіі. Было адзначана, што ТБМ на Гарадзеншчыне выстаяла, але праблемаў надзвычай шмат. Ліквідавана беларускае школьніцтва ў Горадні. Юрыдычны адрас Гарадзенская абласная рада мае ў Доме палякаў.

Абраны новы склад абласной рады ў складзе 10 чалавек і новы склад Рэвізійнай камісіі. Старшынём рады паўторна абраны Аляксандр Місцюкевіч. Абраны тры дэлегаты на з'езд ТБМ.

1 красавіка 2001 года ў Менску адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Менскай абласной арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны.

Былі заслуханы справаздачы старшыні Менскай абласной рады ТБМ і Рэвізійнай камісіі. На канферэнцыі выступіў старшыня ТБМ Алег Трусаў.

Абраны новы склад абласной рады ў складзе 7 чалавек і Рэвізійная камісія. Новым старшынём Менскай абласной рады абраны Юры Малаш. Старшынёй Рэвізійнай камісіі абрана Таццяна Анкуд. Абраны тры дэлегаты на з'езд ТБМ.

## *Удалападуладныя*

Сорам за наш Менскі гарвыканкам выклікае іх рашэнне (спачатку адказалі, гл. "Наша слова" № 14 ад 14.03.01 г.), што мы, ТБМ "маем права правесці пікетаванне", каб прыцягнуць увагу кіраўніцтва нацыянальнай дзяржаўнай, сталічнай тэлекампаніі, іх супрацоўнікаў да праблемы роўнасці абедзвюх дзяржаўных моў пры падрыхтоўцы і выпуску ў эфір тэлерадыёпраграм, у парку Дружбы народаў – далёка ад гэтых тэлекампаній. Маўляў, пікетоўшчыкаў, як кажуць, далёка не паслалі, а пікетаваныя тэлевізійшчыкі самі да пікетоўшчыкаў прыбудуць, пакідаўшы свае працоўныя месцы, бо якім тады чынам можна туды трапіць. Пікет ладзіўся ж акурат у час, калі тэлевізійшчыкі сыходзяць з працы і пікет не можа застацца незаўважаным. Рашэнне гарвыканкаму -- гэта не што іншае, як правакацыя ісці на парушэнне.

Нягледзячы на сваё, адзначае ў лісце, рашэнне аб узгадненні канкрэтнага ў гэтым парку месца з ГУУС Менгарвыканкаму, нас, бы тых неразумных дзіцянят, ці шчанюкоў, што выгульваюць побач, засмечваючы калам усё наваколле, павучаюць, каб не стваралі перашкоды пешаходам ды транспарту. А каб адчувалі, хто ёсць хто, пагрозліва нагадалі, каб не парушалі грамадскі парадак і дзейнае заканадаўства, бо за гэта "прадугледжана адказнасць". А мы то, цёмныя, пэўна і не ведаем. Прачытаўшы такое рашэнне гарвыканкаму, паўстае пытанне: ці то нас сапраўды за дурняў прымаюць, ці то нашы чыноўнікі так адарваліся ад гэтага народу, каму абавязаны служыць верай і праўдай, што грамадзян, іх арганізацыі сталі лічыць такімі вось немаўлятамі, якіх трэба павучаць, ды нагадваць?

Але, што іх сароміць, ім спачуваць трэба, бо яны самі, бы тыя "браты меншыя" з парку Дружбы народаў, пастаўлены ў такія рамкі, пры якіх іншага выйсця няма, як за няблагі заробак прадаваць уласнае сумленне, служыць не тым, за чый кошт жалаванне атрымліваеш, а вышэйпастаўленаму. Але іх сумленне не мучыць, іх задавальняе такая ўдалая падуладнасць.

*Мікола Лавіцкі, першы намеснік старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"*

### Новае выданне ТБМ

ТБМ выдала каляндарык да 125-годдзя з дня нараджэння Цёткі. Каляндарыкі на 2001-2002 навучальны год можна знайсці ў сядзібе ТБМ на Румянцава, 13 у Менску.




### Тэматычны ўрок у Крупаве

22 сакавіка ў Крупаўскай школе Лідскага раёна адбыўся раённы сход дырэктароў. На мерапрыемстве прысутнічалі за 30 дырэктароў, а таксама загадчык райадукацыі Т. І. Лапко, старшыня прафкама прафсаюза адукацыі М. А. Шот, супрацоўнік гістарычна-мастацкага музея Н. А. Хацяновіч і сябар Саюза Беларускіх Пісьменнікаў аўтар кніг "Пагоня за мову", "Мой Грунвальд" С. В. Суднік. У ходзе тэматычнага ўрока пра Лідскі замак і мінулае Крупава школьнікі прадставілі сцэнку пра малавядомыя каму старонкі Лідчыны (паводле паэм С. Судніка "Літва" і "Давыд Гарадзенскі" і публікацый часопіса "Лідскі летапісец"). У канцы ўрока С. Суднік чытаў вершы на гістарычныя тэмы, а Н. Хацяновіч распавяла пра магчымасці супрацоўніцтва музеяў. Увесь урок ішоў на далікатнай беларускай мове.

Трэба адзначыць, што Крупаўская СШ носіць імя Ігната Дамейкі, ёсць музей нашага земляка, гісторыка, нацыянальнага героя Чылі, які калісьці жыў побач у мястэчку Заполле, дзе ўстаноўлены мемарыяльны помнік.

*Алесь Хітрун.*

## Вельмішаноўныя землякі!

Пры вашай падтрымцы Міколам Котавым быў створаны на Бацькаўшчыне тэатр фальклёру "Бераг белых буслоў" з дзяцей забруджаных раёнаў Чарнобыльскай зоны. Сёння ён нясе людзям радасць і асалоду, родным словам, матчынай песняй, абрадам, танцам, музыкай.

Выступленні калектыву праходзяць з поспехам у вёсках і гарадах Беларусі.

Шчыра, сардэчна дзякуем землякам у ЗША: Беларуска-Амерыканскаму Грамадскаму цэнтру г. Саўт Рывер, прэзідэнту Жоржу Навумчыку; Фундацыі імя Пётры Крэчаўскага, прэзідэнту Янку Запрудніку.

Царкве Св. Еўфрасінні Полацкай

Царкве Св. Жыровіцкай Божай Маці


Тэатр фальклёру "Бераг белых буслоў"

Усім людзям хто аказваў дапамогу.

Віншуем Вас з Вялікаднем! Моцнага здароўя! Хрыстос Уваскрос!

*Грамадскі дзіцячы цэнтр "Дзецям Чарнобыля"*
*г. Буда-Кашалёў Гомельскай вобласці Беларусь.*

## Весткі з Севастопаля адным радком

- 25 снежня 2000 года Севастопальская суполка ТБМ адзначыла Дзень Памяці Рагнеды.
- Першы дзень XXI стагоддзя сябры Таварыства сустрэлі на тэрыторыі старажытнага Херсанеса, дзе яны ўсталявалі герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг, а святар Ігар Чыкіта прачытаў малітву за беларускі народ і краіну.
- Таксама сябры адзначылі 255 гадоў з дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі, у гонар якога на Гвардзейскім мысе ўсталявалі сцяг і запалілі паходню Волі.
- Штомесяц тамтэйшыя сябры ТБМ рыхтуюць перадачу "Пагоня", адметную сваімі пазыўнымі – гімнам "Пагоня" у выкананні Данчыка, якая гучыць у радыёэфіры на беларускай мове 30 хвілінаў і распавядае пра вядомых людзей Беларусі: Рагнеду, Тадэвуша Касцюшку, нашых сучаснікаў – Адама Мальдзіса, Аляксея Марачкіна.
- Севастопальцы, удзячныя мастаку Аляксею Марачкіну за падарунак – партрэт Максіма Багдановіча "Я не самотны", адзначылі 10 сакавіка дзень нараджэння мастака.

*Паводле Валерыя Барташа.*

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

### *Ахвяраванні на ТБМ*

| | |
|---|---|
| 1. Надзея Барт-Юрэвіч (Германія) | -100 DM |
| 2. Петруковіч Васіль (Менск) | - 3.500 р. |
| 3. Яўсей М. (Горадня) | - 1.000 р. |
| 4. Дамашэвіч Уладзімір (Клецк) | - 2.000 р. |
| 5. Казлоўская У. У. (Менск) | - 1.000 р. |
| 6. Кулевіч Я. Б. (Смаргонь) | - 5.000 р. |
| 7. Нікалаюк А.В. (Менск) | - 5.000 р. |
| 8. Кашэль Канстанцін (Менск) | - 1.000 р. |
| 9. Ганчарова Валянціна (Менск) | - 500 р. |
| 10. Анатоль Белы (Менск) | - 25.000 р. |
| 11. Аддзел рэстаўрацыі і рэканструкцыі ДП "Менскапраект" (7 чал.) | - 5.000 р. |
| 12. Фелікс Шкірманкоў (Слаўгарад) | - 2.000 р. |
| 13. Жасновіч Верв Сымонаўна (г. п. Гарадзея Нясвіжскага р-на) | -- 2.000 р. |

**Першасная суполка Мар'інагорскага каледжу**

| | |
|---|---|
| 1. Лахадыр М.Н. | - 1000 р. |
| 2. Бірыла Л.А. | - 1000 р. |
| 3. Філімончык Г.Ф. | - 1000 р. |
| 4. Меляшкевіч І.В. | - 1000 р. |
| 5. Адамовіч Ф.Ю. | - 500 р. |
| 6. Новікаў І.Ю. | - 500 р. |
| 7. Русаковіч В.С. | - 1000 р. |
| 8. Брэская Л.І. | - 1000 р. |

**СШ №193 Фрунзенскай арганізацыі ТБМ г. Менска**

| | |
|---|---|
| 1. Настаўнікі (10 чал) х 500 р. | = 5.000 р. |
| 2. Вучні (50 чал) х 50 р. | = 2.500 р. |

**Бешанковіцкай суполка ТБМ імя Ф. Скарыны**

| | |
|---|---|
| 1. Капойка Уладзімір | - 1.000 р. |
| 2. Тракун Валянціна | - 1.000 р. |
| 3. Пляхневіч Тамара | - 1.000 р. |
| 4. Капціловіч Тамара | - 1.050 р. |
| 5. Пятрашкевіч Мая Вас. | - 1.000 р. |
| 6. Асташонак Людміла В. | - 1.000 р. |
| 7. Курмель Ірына Васільеўна | - 1.000 р. |
| 8. Капціловіч Іван | - 50 р. |
| 9. Станкевіч Георгі | - 1.000 р. |

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).




№ 14 (502) 4 КРАСАВІКА 2001 г. наша СЛОВА

Праект

# СТРАТЭГІЯ
## развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі

**Падрыхтавалі: С. Запрудскі, А. Анісім, У. Кошчанка, С. Кручкоў, А. Мальдзіс, А. Таболіч, Г. Цыхун**

***Ад Рабочай групы па падрыхтоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі***

*Рабочая група рэкамендуе да друку на старонках "Нашага слова" першы варыянт праекту Стратэгіі, падрыхтаваны творчым калектывам у складзе С. Запрудскага, А. Анісім, У. Кошчанкі, С. Кручкова, А. Мальдзіса, А.Таболіч, Г. Цыхуна.*

*Рабочая група і самі ўкладальнікі не лічаць, што пададзены праект уяўляе сабой канчаткова апрацаваны, "кананічны" тэкст, у якім бездакорная структура, належным чынам дапасаваны розныя раздзелы, праведзена добрая рэдактарская праца, захаваны ўніфікаваны падыход да афармлення. Стратэгія ствараецца ў Таварыстве ўпершыню, таму працэс яе падрыхтоўкі нялёгкі і марудны. Укладальнікі адчуваюць патрэбу ўзгаднення выкладзеных імі пазіцый з шырокай супольнасцю.*

*Нягледзячы на магчымыя недахопы прапанаванага тэксту Рабочая група бачыць у ім багаты матэрыял для асэнсавання і абмеркавання і, жадаючы актывізаваць дыскусію напярэдадні з'езду, рэкамендуе яго да друку.*

**Змест:**



### УВОДЗІНЫ

**А. Што такое Стратэгія?**

**Стратэгія** – гэта падрыхтаваны калектыўнымі намаганнямі дакумент, у якім выкладзены блізкія і доўгатэрміновыя задачы захавання і развіцця беларускай мовы.

Стратэгія рыхтуецца Таварыствам беларускай мовы для Таварыства беларускай мовы. У Стратэгіі фармулююцца рэальныя задачы, якія Таварыства магло б выконваць ужо цяпер або – пры неабходным рэсурсавым забеспячэнні – праз нейкі час.

Адначасова ў працэсе выпрацоўкі Стратэгіі Таварыства усталёўвае партнёрскія адносіны з рознымі арганізацыямі, установамі, партыямі, міністэрствамі, СМІ і г. д. для далучэння да справы выпрацоўкі Стратэгіі як мага больш шырокага інтэлектуальнага рэсурсу. У ідэале Таварыства хацела б, каб падрыхтаваная ім з удзелам шырокіх грамадскіх сілаў Стратэгія трансфармавалася б ў Стратэгію развіцця беларускай мовы для беларускага грамадства ў цэлым.

Быўшы падрыхтаванай і зацверджанай, Стратэгія робіцца галоўным "ідэалагічным" і рабочым дакументам Таварыства мінімум на 20 гадоў. ТБМ мае кіравацца ў сваёй дзейнасці падрыхтаванай і зацверджанай Стратэгіяй. У працэсе рэалізацыі Стратэгіі пастаянна ажыццяўляецца кантроль за яе выкананнем. Канкрэтныя задачы могуць удакладняцца ў адпаведнасці з новым разуменнем.

Праз 20 гадоў праводзіцца агульная праверка правільнасці вызначанай мэты і задач Стратэгіі, аналізуецца ступень выканання закладзеных у Стратэгіі канкрэтных задач.

**Б. Цяперашні стан беларускай мовы**

Сучасная беларуская мова існуе ў 3-х разнавіднасцях: *літаратурная мова, народна-дыялектная мова і змешаная мова на беларускай аснове.* Усе людзі, якія карыстаюцца гэтымі разнавіднасцямі з'яўляюцца носьбітамі беларускай мовы. З аднаго боку, Таварыства спавядае **талерантнасць** у адносінах паміж носьбітамі ўсіх гэтых разнавіднасцяў. З другога, ТБМ падкрэслівае важнасць аваладвання літаратурнай мовай як мага большай колькасцю людзей.

Прынцып талерантнасці пашыраецца і на падыходы да сучаснай літаратурнай мовы, у межах якой суіснуюць дзве традыцыі. Адна разнавіднасць беларускай літаратурнай мовы атрымала назву "тарашкевіца" (паводле імя аўтара "Беларускай граматыкі для школ" Б. Тарашкевіча), другая – "чарнушэвіца" (паводле імя народнага камісара асветы Дзм. Чарнушэвіча). Абодва тыпы беларускай літаратурнай мовы маюць паміж сабой вельмі шмат агульнага і адрозніваюцца нязначнай колькасцю рысаў. Маючы вельмі неадназначнае пашырэнне ў грамадстве, абодва варыянты беларускай літаратурнай мовы тым не менш маюць выразны грунт для ўжывання. Таварыства стаіць за недапушчальнасць распальвання канфрантацыі паміж прыхільнікамі абодвух варыянтаў.

Згодна з дадзенымі перапісу 1999 года на беларускай мове штодня размаўляюць 37 працэнтаў жыхароў Беларусі. Можна, аднак, меркаваць, што сукупная колькасць носьбітаў беларускай мовы ў яе стандартызаванай і дыялектнай формах, а таксама тых, хто выкарыстоўвае змешаныя варыянты маўлення на беларускай аснове, сягае 7 – 8 мільёнаў чалавек, што складае 70 – 80 працэнтаў насельніцтва Беларусі. Падчас таго ж перапісу 74 працэнты (амаль тры чвэрці) грамадзян Беларусі прызналі беларускую мову сваёй роднай, і ў гэтым мы бачым вялікі патэнцыял для яе будучага развіцця.

**В. Мэты і задачы**

*Галоўнай мэтай* Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі з'яўляецца ***стварэнне ўмоў для захавання і доўгатэрміновага развіцця беларускай мовы як жывой, штодзённай мовы беларускага народа.***

*"Найбліжэйшымі" мэтамі* падрыхтоўкі Стратэгіі з'яўляюцца:

♦ максімальная рацыяналізацыя дзейнасці ТБМ;

♦ больш выразная пастаноўка ў грамадстве праблемы захавання і развіцця беларускай мовы;

♦ далучэнне да праблем развіцця беларускай мовы як мага большай колькасці людзей і арганізацый.

Дасягненне гэтых мэтаў прадугледжвае ажыццяўленне наступных *задач*:

1. Павелічэнне колькасці носьбітаў беларускай мовы.
2. Забеспячэнне магчымасцяў для ўжывання беларускай мовы
3. Паляпшэнне стаўлення да беларускай мовы

### РАЗДЗЕЛ І
### Павелічэнне колькасці носьбітаў беларускай мовы

**1.1 Сфера адукацыі**

У павелічэнні колькасці людзей, якія б выкарыстоўвалі беларускую мову у розных сферах жыцця, вельмі важнае месца займае сістэма адукацыі розных узроўняў. Важна забяспечыць непарыўнасць беларускамоўнага навучальнага працэсу на працягу ўсяго перыяду навучання: ад садка і да універсітэта. Для гэтага трэба мабілізаваць усе структуры, якія павінны забяспечваць непарыўнасць працэсу.

Абсалютна неабходна наладзіць сістэму падтрымкі і ўзаемадзеяння паміж галоўнымі ўдзельнікамі працэсу папулярызацыі беларускай мовы (беларускімі школамі, бацькоўскімі камітэтамі і інш.), каб яны не заставаліся сам-насам са сваімі праблемамі

Павінна быць забяспечана магчымасць навучання дзяцей і моладзі розным прадметам на беларускай мове у межах адукацыйнай сістэмы уключаючы: дашкольнае выхаванне; сярэднюю адукацыю; пазашкольнае выхаванне; спецыяльную адукацыю; вышэйшую адукацыю.

***А. Дашкольнае выхаванне***

Забеспячэнне эфектыўнай і даступнай падрыхтоўкі праз беларускую мову з'яўляецца вельмі важным як у працы з дзецьмі, якія размаўляюць на беларускай мове, так і з дзецьмі, якія вучацца размаўляць па-беларуску. Гэты перыяд з'яўляецца найбольш важным для закладкі падмурка, які павінен стаць гарантыяй таго, што дзеці будуць свабодна валодаць беларускай мовай на працягу ўсяго жыцця.

Не ўсе бацькі выбіраюць так званыя беларускія садкі, але калі мы хочам аднаўлення статусу мовы ў грамадстве, мы павінны выпрацоўваць пазітыўныя адносіны бацькоў да веданя іх дзецьмі беларускай мовы.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Заахвочваць персанал беларускамоўных садкоў трымацца беларускай мовы ў выхаваўчым працэсе. Дзеля гэтага з дапамогай бацькоўскіх камітэтаў ствараць фонды дадатковай матэрыяльнай падтрымкі, уключаць персанал у сферу адукацыйных праектаў, што забяспечваюць іх прафесійны рост.

❖ Ствараць сярод бацькоў камітэты з мэтай зацікаўлення ў выхаванні сваіх дзяцей у беларускамоўным асяроддзі.

❖ Уключаць беларускамоўныя садкі ў сферу міжнародных адукацыйных праектаў, спрыяць наданню беларускамоўнаму дашкольнаму выхаванню статусу элітнасці.

❖ Бесперапынна быць у кантакце і працаваць з дзяржаўнымі ўстановамі, адказнымі за дашкольнае выхаванне, з мэтай пашырэння сеткі беларускамоўных садкоў і іх падтрымкі.

**Б. Сярэдняя адукацыя**

Усе без выключэння навучэнцы сярэдніх навучальных устаноў павінны атрымліваць адукацыю на беларускай мове, каб пасля заканчэння школы яны маглі свабодна валодаць мовай ва ўсіх сферах жыцця. Дзеля гэтага павінна павышацца доля прадметаў, выкладанне якіх будзе весціся на беларускай мове. Павінна праводзіцца падтрымка настаўнікаў, якія выкладаюць па-беларуску.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Распрацаваць сістэму дапамогі беларускамоўным школам і схему іх супрацоўніцтва паміж сабой.

❖ Наладжваць сувязі з бацькоўскімі камітэтамі, дзе бацькі зацікаўлены ў адукацыі іх дзяцей на беларускай мове, дапамагчы наладзіць каардынацыю дзеянняў паміж рознымі бацькоўскімі камітэтамі, спрыяць стварэнню аб'яднанняў бацькоўскіх камітэтаў беларускамоўных школ і класаў.

❖ Садзейнічаць уключэнню школ з беларускай мовай навучання ў міжнародныя адукацыйныя праекты.

❖ Дамагацца ад вышанага статусу сярэдніх беларускамоўных навучальных устаноў з наданнем ім статусу ліцэяў або гімназій. Спрыяць станаўленню беларускамоўнай адукацыі як элітарнай.

❖ Абараняць правы грамадзян, якія жадаюць даць свайму дзіцяці адукацыю па-беларуску. Дамагацца праз Канстытуцыйны суд зняцця ўсіх фармальных абмежаванняў, якія дазваляюць мясцовым органам адукацыі пазбягаць выканання дзеючага заканадаўства. (У тым ліку гл. раздзел: *"Органы дзяржаўнага кіравання і юрыдычная база".*)

**В. Пазашкольнае выхаванне**

Вызначальным у выбары мовы зносін вельмі часта становіцца мова пазашкольных адукацыйных устаноў. Гэта гурткі, секцыі, клубы для дзяцей, дзе яны маюць магчымасць атрымаць дадатковыя навыкі і веды ў гуманітарных сферах.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Заахвочваць персанал пазашкольных навучальных устаноў, клубаў, палацаў дзяцей і моладзі, спартыўных секцый ствараць групы для беларускамоўных навучэнцаў.

❖ Спрыяць уключэнню тых устаноў, што прытрымліваюцца ў сваёй дзейнасці беларускай мовы, у міжнародныя адукацыйныя і гуманітарныя праекты.

❖ Тлумачыць бацькам перавагі атрымання пазашкольных ведаў на беларускай мове, матывуючы больш гарманічным выхаваннем і далейшай прыстасаванасцю да шматмоўнага асяроддзя, а таксама больш хуткай адаптацыяй да вывучэння іншых моў у будучыні.

❖ Заахвочваць персанал у працэсе выхавання трымацца беларускай мовы. Дзеля гэтага спрыяць прафесійнаму росту праз далучэнне да міжнародных адукацыйных праграм і трэнінгаў.

**Г. Спецыяльная адукацыя**

Найважнейшымі галінамі спецыяльнай адукацыі для функцыянавання мовы ёсць адукацыйныя ўстановы (каледжы, курсы і да т.п.), што рыхтуюць спецыялістаў у сферы гандлю, аказання паслуг, транспарту і г.д. Абавязковым чыннікам спецыяльнай адукацыі мусіць быць веданне будучымі спецыялістамі прафесійнай лексікі.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Разам з зацікаўленымі спецыялістамі распрацоўваць дапаможнікі для навучання прафесійнай лексіцы ў сферы аказання паслуг.

❖ Дамагацца праз групы ціску ўвядзення ў навучальныя праграмы абавязковага курса беларускай прафесійнай лексікі.

❖ Распрацаваць слоўнікі-дапаможнікі для кіроўцаў, якія маглі б карыстацца імі, аб'яўляючы назвы прыпынкаў.

**Д. Вышэйшая адукацыя**

Вышэйшая адукацыя забяспечвае грамадства высокаадукаванымі спецыялістамі, і вельмі важна, каб будучыя спецыялісты валодалі беларускай мовай і маглі прымяніць яе на працоўных месцах. Для гэтага павінны быць пашыраны ўжытак беларускай мовы ў межах навучальнага працэсу

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Шляхам правядзення адмысловых кампаній замацаваць у грамадскай свядомасці ненатуральнасць такой з'явы, калі ў незалежнай краіне адсутнічае магчымасць атрымання вышэйшай адукацыі на мове карэннай нацыянальнасці краіны.

❖ У найбліжэйшы час дамагчыся адкрыцця беларускамоўных плыняў ва ўсіх ВНУ Беларусі, з гэтай мэтай распачаць кампанію ціску на Міністэрства адукацыі, кіраўніцтва ВНУ, прадстаўнічыя органы улады краіны;

❖ Паралельна, незалежна ад дзяржавы, ствараць магчымасці атрымання вышэйшай адукацыі пры дапамозе інфармацыйных тэхналогій. (Больш падрабязна гл. раздзел *Інфармацыйныя тэхналогіі*).

*(Працяг у наст. нумары.)*

